
VERTIGO
FABLES™
ISSUE 7 JAN 2003 2.50 can 4.25
BILL WILLINGHAM
MARK BUCKINGHAM
STEVE LEIALOHA
SUGGESTED FOR MATURE READERS
ПАДАННІ #7
ПЕРАКЛАД: АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ: COMICSBY
BY COMICS
DIRECT SALES
vertigocomics.com







ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

# FABLES

# 2













ПЕРАКЛАД
НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:
**АРТУР БАРАДАЧОЎ**

АФАРМЛЕННЕ:
**СЯРГЕЙ
КОЗЫРАЎ**



Што адбывалася дагэтуль:
У АПОШНІ ЧАС БЕЛАСНЕЖКА І РУЖАНЬКА ЧЫРВАНЬ НЯ ВЕЛЬМІ ДОБРА ЛАДЗІЛІ, ТАМУ, ПА ПАТРАБАВАННІ БЕЛЫ, ЯНЫ РАЗАМ ПАЕХАЛІ ЗА ГОРАД НЬЮ-ЁРК, ТУДЫ, ДЗЕ ЗНАХОДЗІЦЦА СУПОЛКА КАЗАЧНЫХ ІСТОТ, ВЯДОМАЯ ЯК ФЕРМА. БЕЛА СПАДЗЯВАЛАСЯ, ШТО ЎДАЛЕЧЫНІ АД СТАЛАЙ МІТУСНІ НЬЮ-ЁРКСКАГА ФЭЙБЛТАЎНА ЯНЫ ЗМОГУЦЬ ПЕРААДОЛЕЦЬ ЦЯЖКАСЦІ. ФЕРМА – ГЭТА МЕСЦА, ДЗЕ ПАВІННЫ ЖЫЦЬ УСЕ КАЗАЧНЫЯ ІСТОТЫ, НЕ ПАДОБНЫЯ НА ЛЮДЗЕЙ. ГЭТА СЛАЎНАЕ МЕСЦА, АЛЕ НЕКАТОРЫЯ З МЯСЦОВЫХ КАЗАЧНЫХ ЗЛУЮЦЦА НА ТОЕ, ШТО ІМ НЕ ДАЗВОЛЕНА ПАКІДАЦЬ ФЕРМУ. ПА ДАРОЗЕ ТУДЫ БЕЛА ВЫЯЎЛЯЕ НЕКАТОРЫЯ ДОКАЗЫ ТАГО, ШТО НА ФЕРМЕ МОГУЦЬ АДБЫВАЦЦА ДЗІЎНЫЯ ПАДЗЕІ. А ПОТЫМ, У ІХ ПЕРШУЮ НОЧ ТАМ, КОЛІН, АДЗІН З ТРОХ МАЛЕНЬКІХ ПАРАСЯТ, БЫЎ ЗАБІТЫ ЖУДАСНЫМ СПОСАБАМ.
ЗАРАЗ ЖА ЗДЫМІЦЕ ГЭТУ АГІДНУЮ ШТУКУ.
Гарматы Фэйблтаўна
ДРУГАЯ ЧАСТКА ЖЫВЁЛЬНАЙ ФЕРМЫ
СЦЭНАР: БІЛ УІЛІНГХЭМ
АЛОВАК: МАРК БУКІНГЕМ
ТУШ: СЦІВ ЛЭЙАЛОА
ЛЭТЭРЫНГ: ТОД КЛЯЙН
КОЛЕР І СЕПАРЫРАВАННЕ: ДАНІЭЛЬ ВОЗО
ВОКЛАДКА: ДЖЭЙМС ДЖЫН
АС. РЭДАКТАРА: МАРЫЯ ХОХНЭР
РЭДАКТАР: ШЭЛІ БОНД
ПАДАННІ СТВОРАНЫ Б. УІЛІНГХЭМАМ
ПЕРАКЛАД НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ: АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ: СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ
ХТО ГЭТА ЗРАБІЎ, ДАН?
Я НЯ ВЕДАЮ, СПАДАРЫНЯ ЧЫРВАНЬ.
ЯК ТЫ МОЖАШ НЯ ВЕДАЦЬ? МІНУЛАЙ НОЧЧУ МЫ ПАКІНУЛІ ЯГО З ТАБОЙ І ПОЎЗІ.


Я **РАНА** АДПРАВІЎСЯ Ў ПАСЦЕЛЮ... АДРАЗУ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ВЫ ПАЙШЛІ. ЁН, МАБЫЦЬ, ЗНОЎ УЦЁК ПАСЛЯ. ВЫ Ж ВЕДАЕЦЕ, ЯКІ КОЛІН... БЫЎ.
ЁН **ЗАЎСЁДЫ** ЎЦЯКАЎ У ПОШУКАХ ПРЫГОД.
ВІДАВОЧНА ЁН ЗНАЙШОЎ АДНО **ВЕЛІЗАРНАЕ**.
У ТАКІМ РАЗЕ ВЫ ПАВІННЫ БЫЛІ **САЧЫЦЬ** ЗА ІМ.
ЧАМУ? МЫ НЕ **ЗАЙМАЕМСЯ** ТАКІМ ТУТ НА ФЕРМЕ. У АДРОЗНЕННЕ АД **ВАС** НАМ НЕ ПАТРЭБНА ЗАМЫКАЦЬ ДЗВЕРЫ НА НОЧ. НАМ НЕ ПАТРЭБЕН НІХТО НАКШТАЛТ **БОЗЛІ ВОЎКА**, КАБ УВЕСЬ ЧАС БУДЗЕ **ЎТЫКАЦЬ СВОЙ НОС** У СПРАВЫ ЎСІХ І КОЖНАГА.
ЗАРАЗ БУДЗЕ. Я ВЫКЛІКАЮ ЯГО СЮДЫ ДЛЯ **РАССЛЕДАВАННЯ**.
НЕ, ВЫ НЯ ЗРОБІЦЕ ГЭТАГА. КАЛІ ЗРАЗУМЕЛА ВЫ НЕ ЖАДАЕЦЕ БУНТУ.
ПРЫНЦЭСА, ЯКАЯ ТРЫМАЕЦЦА ПРАВІЛ, ТАКАЯ ЯК ВЫ, УСПОМНІЦЬ, ШТО ХАРТЫЯ ЗАГАРАДНАГА ФЭЙБЛТАЎНА **ГАРАНТУЕ**, ШТО БОЗЛІ ВОЎК НІКОЛІ НЕ ПАКАЖА ТУТ СВАЮ ВЫРОДЛІВУЮ ШЧАЦІНІСТУЮ МОРДУ. **НІКОЛІ**.



Я ЛІЧУ, ГЭТА АСНОЎНАЯ ПРЫЧЫНА, ПА ЯКОЙ ВАМ УСІМ ДАВЯЛОСЯ ЗНАЙСЦІ ШТО-НЕБУДЗЬ КАРЫСНАЕ, ШТО З ІМ МОЖНА ЗРАБІЦЬ ТАМ У ГОРАДЗЕ.
ДЫК ШТО МЫ ЗБІРАЕМСЯ РАБІЦЬ З **ГЭТЫМ**?
ВЫ, СПАДАРЫНЯ СНЕЖКА, НЕ ЗБІРАЕЦЕСЯ НІЧОГА РАБІЦЬ. АЛЕ Я, ЯК НАЛЕЖНЫМ ЧЫНАМ АБРАНЫ ПАСЛЯ ЗВАЛЬНЕННЯ ВЕЛУНДА КАВАЛЯ КІРАЎНІК ФЕРМАЙ, САМАСТОЙНА ПРАВЯДУ РАССЛЕДАВАННЕ І ДАМ ПАЎНАМОЦТВА ТЫМ, ХТО ПАТРЭБЕН МНЕ ДЛЯ ДАПАМОГІ, КАЛІ ЯНЫ МНЕ БУДУЦЬ ПАТРЭБНЫ.
ГЭТА ЛУХТА. ТЫ **НЯ МОЖАШ** ПРАВОДЗІЦЬ РАССЛЕДАВАННЕ. ТЫ НАЎПРОСТ **ЗАМЯШАНЫ** Ў ЗДАРЭННІ.
ЗА НЕКАЛЬКІ АПОШНІХ ТЫДНЯЎ Я ДАСТАТКОВА НАВУЧЫЛАСЯ АД БОЗЛІ, КАБ ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО ТЫ І ПАРАСЯ ПОЎЗІ ГАЛОЎНЫЯ **ПАДАЗРАВАНЫЯ**.
САЧЫЦЕ ЗА СВАІМІ **СЛОВАМІ**, ЮНАЯ СПАДАРЫНЯ.
А ШТО УСЁ Ж **ЗДАРЫЛАСЯ** З ВЕЛУНДАМ КАВАЛЁМ? ВЫ ТАК І НЯ ВЫТЛУМАЧЫЛІ.
ВЯДОМА, Я ВЫТЛУМАЧЫЎ. ЁН ПАЙШОЎ. ЯМУ НІКОЛІ ТУТ АСАБЛІВА НЕ ПАДАБАЛАСЯ. І МНЕ ЗДАЕЦЦА, ШТО ЁН НАРЭШЦЕ ГЭТА ЗРАЗУМЕЎ.
АБРАННЕ КАВАЛЯ, КАЗАЧНАГА, ЯКІ ВЫГЛЯДАЎ ЯК **ЧАЛАВЕК**, КАБ САЧЫЦЬ ЗА ФЕРМАЙ, БЫЛО КАЛАСАЛЬНАЙ АБРАЗАЙ. ЁН БЫЎ СТАЛЫМ НАПАМІНКАМ ТАГО, ЯК ВЫ ЎСЕ Ў ГОРАДЗЕ ГЛЯДЗІЦЕ НА НАС, ЯК НА ДРУГАГАТУНКАВЫХ ГРАМАДЗЯНАЎ.
НЯ БУДЗЬЦЕ **ДУРНЫМ**. ВЕЛУНД БЫЎ АБРАНЫ ТАМУ, ШТО БЫЎ НАЙЛЕПШЫМ ЧАЛАВЕКАМ ДЛЯ ГЭТАЙ ПРАЦЫ.
МЕНАВІТА. НАЙЛЕПШЫМ **ЧАЛАВЕКАМ**. НЕ СВІННЁЙ, КАРОВАЙ, КАЗЛОМ ЦІ ЦМОКАМ.


ВЫ ЗНАЙШЛІ **ІНШЫЯ ЧАСТКІ** ЯГО ЦЕЛА?
ЯШЧЭ НЕ, СПАДАРЫНЯ ЧЫРВАНЬ, АЛЕ ІХ ШУКАЮЦЬ.
А ЗАРАЗ, Я ЛІЧУ, НАМ З ТАБОЙ ТРЭБА ТРОХІ **ПАГАВАРЫЦЬ**.
ПРА ШТО?
ПАДЧАС НАШАЙ РАЗМОВЫ МІНУЛАЙ НОЧЧУ Я АДЧУЎ, ШТО ТЫ **СІМПАТЫЗУЕШ** НАМ.
ПАКУЛЬ ВОРАГ КАНТРАЛЮЕ НАШЫ СТАРЫЯ ЗЕМЛІ, МЫ НІКОЛІ НЯ БУДЗЕМ У БЯСПЕЦЫ, І АБСАЛЮТНА ДАКЛАДНА МЫ НІКОЛІ НЯ БУДЗЕМ **ВОЛЬНЫЯ**.
ТАК, Я ТАКСАМА ТАК ЛІЧУ, ПОЎЗІ, АЛЕ ШТО МЫ МОЖАМ ЗРАБІЦЬ?
НАШЫ ЗЕМЛІ БЫЛІ АДАБРАНЫ Ў НАС **СІЛАЙ**. МЫ МОЖАМ АДАБРАЦЬ ІХ ТАКІМ ЖА **ЧЫНАМ**.
БЕЛА КАЖА, ШТО ГЭТА НЕМАГЧЫМА, І ЯК БЫ МНЕ НЕ БЫЛО АГІДНА ЗГАДЖАЦЦА З ЁЙ У **ЧЫМСЬЦІ**, АЛЕ Ў ГЭТЫМ ВЫПАДКУ МНЕ ДАВЯДЗЕЦЦА.
ЯКІЯ ШАНЦЫ Ў КУПКІ **ЖЫВЁЛ** З ФЕРМЕРСКАГА ПАНАДВОРКА З НЕКАЛЬКІМІ ДЗІЎНЫМІ ГІГАНТАМІ, ПОШЧАКАМІ І ІНШЫМІ ПАЧВАРАМІ СУПРАЦЬ ВОРАГА І ЯГО НЕЗЛІЧОНЫХ АРМІЙ?
**ЯКРАЗ** НАД ВЫРАШЭННЕМ ГЭТАЙ ПРАБЛЕМЫ МЫ І ПРАЦАВАЛІ, І МНЕ ЗДАЕЦЦА, МЫ ЯЕ ВЫРАШЫЛІ.
ПОЙДЗЕМ СА МНОЙ. Я ЖАДАЮ ПАКАЗАЦЬ ТАБЕ ШТОСЬЦІ САПРАЎДЫ **КЛАСНАЕ**.


Дзесьці яшчэ, не зусім далёка...
Вось, злаці, гэта дастаткова глыбока?
Гэта дастаткова, татка. Я лічу.
Зараз усё, што нам трэба, гэта каб наш малыш бу прынес астатнія часткі парасяці, і мы можам скончыць гэту агідную справу.
Расслабся, мамка, мы тут.
Нарэшце.
Тады паспяшайся і скінь яго галаву ў дол, пакуль яшчэ хто-небудзь не прыйшоў.
Мы б ужо даўно скончылі і вярнуліся ў нашы пасцелі, калі б ты не настаяла, каб мы выставілі яго галаву на агляд.
Так, злаці, мілая, навошта нам быў патрэбен гэты трук?
Гэта наўрад ці было трукам, і так, мамка, гэта было вельмі неабходна. Гэта сімвалізавала, што надышоў час нашай рэвалюцыі, надышоў час выйсці з цені і пачаць сур'ёзна.


ФУ!
ПАСКУДСТВА!
АЛЕ ЦІ ТРЭБА , КАБ ГЭТА БЫЛО ТАК КРЫВАВА І ГРУБА... І ГЭТАК **ПУБЛІЧНА**?
АБСАЛЮТНА, ТАМУ ШТО ЦЯПЕР НЯМА ШЛЯХУ НАЗАД. ТЫМ, ХТО БАЯЗЛІВА АДСЕДЖВАЕЦЦА, ДАВЯДЗЕЦЦА, НАРЭШЦЕ, АБІРАЦЬ БОК...
...ЦІ **СУТЫКНУЦЦА** З ВЫНІКАМІ.
А КАЛІ ТЫ ХОЦЬ РАЗ ПРЫЦЯГНЕШ СВОЙ ВАЛАСАТЫ АЗАДАК У **БІБЛІЯТЭКУ**, ТЫ ПАЗНАЕШ, ШТО ПАВЕДАМЛЕННЕ, ЯКОЕ Я ПАСЛАЛА... ЯКІМ **ЧЫНАМ** Я ЯГО ПАСЛАЛА... БЫЛІ АСАБЛІВА **ДАРЭЧНЫЯ**.
НАС ВЫКІНУЛІ НА ГЭТЫ ВОСТРАЎ НА ДАСТАТКОВА ДОЎГІ ЧАС. КОЖНАЯ ЖОРСТКАСЦЬ, ЯКАЯ АДБУДЗЕЦЦА Ў ВЫНІКУ, БУДЗЕ НАСТУПСТВАМ НАШАГА НЕСПРАВЯДЛІВАГА ЗНЯВОЛЕННЯ.
ЗЯМЛЯ ЗЛАТАВАЛОСЦЫ: ГЭТА НІЯКІ НЯ **ВОСТРАЎ**, ДЗЕТКА.
ВЫВУЧЫ-КА КАНЦЭПЦЫЮ **"МЕТАФАРЫ"**, БУ.
А ТЫ НАЎРАД ЦІ **ЗАХРАСЛА** ТУТ ЯК МЫ, ЗЛАЦІ. ТЫ МОЖАШ ПЕРАЕХАЦЬ У ГОРАД, КАЛІ ПАЖАДАЕШ.
НЯЎЖО ТЫ ЯШЧЭ НЕ **ЗРАЗУМЕЛА**? ПАСЛЯ ЎСІХ МАІХ ЛЕКЦЫЙ ПРА ДАКТРЫНУ? КАЛІ **АДЗІН** З НАС ЗАНЯВОЛЕНЫ, ЗНЯВОЛЕНЫ ЎСЕ.
ТАК, Я МАГУ ПЕРАЕХАЦЬ, АЛЕ Я ВЫБРАЛА ЗАСТАЦЦА ТУТ З ВАМІ. **ВАША** ЗМАГАННЕ - ГЭТА **МАЁ** ЗМАГАННЕ.


ТЫ ДУМАЕШ, Я ПАДЗЯЛІЛА **ПАСЦЕЛЮ** З ТВАІМ СЫНАМ, ТОЛЬКІ ТАМУ, ШТО ГЭТА АКАЗАЛАСЯ "ПРОСТА ПРАВІЛЬНА"?
НЕ, ГЭТА ТОЛЬКІ ТАМУ, ШТО Ў ТАТАЧКАВАГА МЕДЗВЕДЗЯНЯЦІ БУ ЗДАРАВЕННЫ...
Я РАБЛЮ ГЭТА, ТАМУ ШТО ГЭТА ВАЖНАЯ І МАГУТНАЯ **ПАЛІТЫЧНАЯ ЗАЯВА**. ЯНА СІМВАЛІЗУЕ, ШТО МЫ ЎСЕ РОЎНЫЯ. НЯМА **ПЕРАСЯЖНЫХ** ВІДАЎ. МЯДЗВЕДЗЬ, ЧАЛАВЕК І ВОЖЫК, НЯ МАЕ ЗНАЧЭННЯ — НАВАТ ПРЫ ВЫБАРЫ Ў САМЫХ НАШЫХ ІНТЫМНЫХ СФЕРАХ ЖЫЦЦЯ... ІНАКШ МЫ ЎСЕ **ПРЫГНЯТАЛЬНІКІ**.
А МОЖА БЫЦЬ ТЫ ПРОСТА ЗААХВОЦІЛАСЯ ДА ЗАБАРОНЕНАГА **ПЛОДА**?
РЭЙНАРД!
СПЕЦЫЯСІСТ!
ЧАМУ ВЫ, ДБАЙНЫЯ ПАЛІТЫКІ, **НАСТОЙВАЕЦЕ** НА ЖЫЦЦІ ЦАЛКАМ У СВАІМ **СІМВАЛІЧНЫМ** СВЕЦЕ?
ШТО ТЫ ТУТ РОБІШ?
МЯНЕ ПРЫЦЯГНУЎ ПАХ СВЕЖАЗАБІТАЙ **СВІНІНКІ**.
ОХ, БОЖА МОЙ, Я ПАКІНУЎ СВАЮ КАРТКУ ДЛЯ ЗАПІСУ АЧКОЎ У ІНШЫХ ПОРТКАХ, АЛЕ ХІБА БЕДНЫ КОЛІН НЯ БЫЎ НА **ВАШЫМ** БАКУ? ШТО ЗДАРЫЛАСЯ? ЎЖО ЎСТУПІЛІ Ў НЯЎХІЛЬНУЮ СТАДЫЮ КОНТРЫ ПАДЧАС ХВАЛЕБНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ?



КОЛІН БЫЎ СЛАБЫ.
ЁН ПРАВАЛІЎ СВАЮ НАЙВАЖНУЮ МІСІЮ Ў СТАНЕ ВОРАГА. ТЫЯ, ХТО НЕДАСТАТКОВА МОЦНЫЯ, НІЧЫМ НЕ АДРОЗНІВАЮЦЦА АД ЗДРАДНІКАЎ НАШАЙ СПРАВЫ.
Я БАЮСЯ, ШТО ТЫ ЗАНАДТА ШМАТ БАЧЫЎ.
ЛАЙНО!
ШТО ТЫ РОБІШ, ДУРНАЯ ДЗЯЎЧЫНА?
УСЕ ПАЧУЮЦЬ СТРЭЛ.
І ШТО? АКУПАЦЫЙНЫЯ ЎРАДЫ АДНЫМІ ГАВОРКАМІ НЕ РАЗБУРЫШ.
ТЫ ДАЎ ЯМУ ПАЙСЦІ, СТАРЫ МЯДЗВЕДЗЬ.
ЦЯПЕР МЫ ПАВІННЫ ВЫСАЧЫЦЬ ЯГО, ПЕРШ ЧЫМ ЁН ЗАГАВОРЫЦЬ З КІМ-НЕБУДЗЬ.
УЗДЫМАЙЦЕ ПРАЛЕТАРЫЯТ! ХУТКА!


А ў гэты самы час...
УСЁ ЯШЧЭ ЛІЧЫШ, ШТО ГЭТА **НЕМАГЧЫМА**, СПАДАРЫНЯ ЧЫРВАНЬ?


УХ ТЫ.


Ледзь пазней тым жа днём...
ЁН УЖО ПРАЦВЕРАЗЕЎ?
ЯК ПА ІМ СКАЖАШ?
ЗНАЙДУ ГЭТУ ЧОРТАВУ ЛЯТУЧУЮ МАЛПУ, Я ЯЕ...
НЕ ВІНАВАЦЬ БУФКІНА, У ЯГО МЕРКАВАННЕ, ЭМ... НУ МАЛПЫ. МНЕ ТРЭБА БЫЛО ЛЕПШ ЗА ІМ ПРЫГЛЯДАЦЬ, БОЗЛІ.
НУ, ПРЫНАМСІ, РЫЦАР-КЛЯТВАПАРУШАЛЬНІК ЯШЧЭ НЕ ПАЧАЎ ПРАРАКАЦЬ. ПАКУЛЬ ЁН ГЭТА НЕ ПАЧНЕ, З НАМІ ЎСЁ БУДЗЕ НАРМАЛЬНА, ТАК?
II SIO...
ВОСЬ ЛАЙНО.


БУДЗЕ ВЯЛІКАЕ АБУРЭННЕ Ў ВАЛОДАННІ. ДЗЕЦІ ПОЎНАЧЫ ПАМКНУЦЦА ЗНІШЧЫЦЬ ДЗЯЦЕЙ ПОЎДНЯ.
ЧОРТ ДЗЯРЫ, ГЭТА ШТО ЗА ЛУХТА?
ЁН ПРАД-КАЗВАЕ ГРА-МАДЗЯНСКУЮ ВАЙНУ?
ЦІ НАЎРАД, ГЭТА БУДУЧЫНЯ.
НЯ НАША ЎЖО **САПРАЎДЫ**.
КАЛІ ЁН ТАМ З САБОЙ **СКОНЧЫЎ?** ДЗЕСЬЦІ Ў ТРЫНАЦЦАТЫМ СТАГОДДЗІ, ТАК? ТАКІМ ЧЫНАМ ДЛЯ ЯГО ГЭТА БЫЦЦАМ БУДУЧЫ-НЯ, ПАСТУШОК.
НЯ ДУМАЮ, ШТО АТРЫМ-ВАЕЦЦА ТАК.
І СЯСТРА ПАДНІМЕ МЕЧ СУПРАЦЬ СЯСТРЫ.
ЭЙ, ЁН КАЖА ПРА СПАДА-РЫНЮ СНЕЖКУ І СПАДА-РЫНЮ ЧЫРВАНЬ?
КАЛІ ТАК, ТО ЁН ЯШЧЭ ЖУЕ СТАРЫЯ НАВІНЫ.
ГЭТЫЯ ДВА СТАГОДДЗІ ЧАПЛЯ-ЮЦЦА ЗА ГЛОТКУ АДЗІН АДНА-МУ. ГЭТЫ ХЛОПЕЦ ЯШЧЭ АДЗІН ЛАЙНОВЫ **АРАКУЛ**.



Неўзабаве пасля гэтага...
НАРЭШЦЕ! **ВОСЬ** І ТЫ!
Я **ЎСЮДЫ** ЦЯБЕ ШУКАЛА. ДЗЕ ТЫ **БЫЛА** ЎВЕСЬ ДЗЕНЬ?
ПАВЕР, БЕЛА,ОЙ, ТЫ **НЯ ХОЧАШ** УЛЕЗЦІ Ў ГЭТЫ БОЙ.
ВОСЬ Я РАЗУМНІЧКА. Я **ПАЭТКА**.
ЯКОГА ЛЕСУНА ТЫ **ШУКАЕШ**?
МАЕ КЛЮЧЫ.
КАЛІ БЫЦЬ ДАКЛАДНАЙ, КЛЮЧЫ АД МАЙГО ГРУЗАВІКА. НЕ МАГУ ІХ НІДЗЕ ЗНАЙСЦІ.
**І НЯ ЗНОЙДЗЕШ.**


ШТО ТЫ **МАЕШ** НА ЎВАЗЕ?
СЯСТРА, ПАСПРАБУЙ ХОЦЬ РАЗ У СВАІМ ЖЫЦЦІ **ПАЗЫЧЫЦЬ** ВЫНІК, КАЛІ НЯ МОЖАШ СУМЛЕННА ДАЙСЦІ ДА ЯГО САМА.
ДАЙ-КА **ЗДАГАДАЮСЯ**: ТЫ ШУКАЕШ КЛЮЧЫ АД ГРУЗАВІКА, КАБ З'ЕХАЦЬ КУДЫ-НЕБУДЗЬ, ДЗЕ МОЖНА **ПАТЭЛЕФАНАВАЦЬ**, ТАМУ ШТО АДЗІНЫ ТЭЛЕФОН, ЯКІ ЗНАХОДЗІЦЦА НА ПАВЕРСЕ НІЖЭЙ, **ВЫЯЎНА НЯ ДЗЕЙНІЧАЕ**.
ТАК, УСЁ ЛОМІЦЦА. БЯЗ **ВЕЛУНДА**, КАБ РАМАНТАВАЦЬ, ГЭТА МЯСТЭЧКА **КОЦІЦЦА** НАЎПРОСТ У БАЛОТА.
БАЧ ЗРАЗУМЕЙ. ТЫ І **ДАПРАЎДЫ** МОЖАШ БЫЦЬ НАСТОЛЬКІ НАІЎНАЙ?
НЕ МАГЛА Б ТЫ СПЫНІЦЦА ЧАПЛЯЦЦА ДА МЯНЕ І СКАЗАЦЬ ТОЕ, ШТО ЖАДАЕШ, КАЛІ, ЗРАЗУМЕЛА, ТАБЕ **ЁСЦЬ**, ШТО СКАЗАЦЬ?
АКЕЙ, ЯК НАКОНТ **ГЭТАГА**? ТЭЛЕФОН НЯ **ДЗЕЙНІЧАЕ,** ТАМУ ШТО ЯНЫ ПЕРАРЭЗАЛІ **ЛІНІЮ**.
КЛЮЧЫ АД ГРУЗАВІКА ЗНІКЛІ, ТАМУ ШТО ЯНЫ ЗАБРАЛІ ІХ.
**ЧАМУ?** З ЯКОЙ ГЭТА ЛАСКІ?


ТАМУ ШТО СМЕРЦЬ КОЛІНА НЕ БЫЛА АСОБНЫМ ДЗЕЯННЕМ НЕНАРМАЛЬНАГА **АДЗІНОТНІКА**. ТАМУ ШТО ЯНЫ НЯ МОГУЦЬ ДАЗВОЛІЦЬ НАМ ПАЙСЦІ ЦІ ПАКЛІКАЦЬ НА ДАПАМОГУ. НАПРАМІЛЫ БОГ, РАСЧЫНІ СВАЕ МАРКІТАВАНЫЯ ВОЧЫ, **БЕЛА**.
НА САМОЙ СПРАВЕ **ЗАБУДЗЬСЯ**, ШТО Я ГЭТА СКАЗАЛА. ТАБЕ ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ БУДЗЕ **БЯСПЕЧНЕЙ НЕ ЗАЎВАЖАЦЬ**, ШТО АДБЫВАЕЦЦА. ЗРАБІ САБЕ ПАСЛУГУ І ПРАЦЯГВАЙ ПРЫКІДАЦЦА ДУРНІЧКАЙ ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІ ДЗЁН.
ДЛЯ ЦЯБЕ ГЭТА БУДЗЕ ДА ДУРАСЦІ **ЛЁГКА**.
ШТО ТЫ **ЗАДУМАЛА**?
СЫХОДЖУ, МЯНЕ НЯ БУДЗЕ НЕКАТОРЫ ЧАС. НЕ ЎЗДЫМАЙ ШУМ У **ПОШУКАХ** МЯНЕ.
ДЫ ПАЧАКАЙ ЯШЧЭ АДНУ ПРАКЛЯТУЮ **ХВІЛІНУ!** ВЯРНІСЯ **НАЗАД!**
НЕ МАГУ, МІЛАЯ. ТРЭБА БЕГЧЫ. МЯНЕ ЧАКАЮЦЬ. ПОМНІ, ШТО Я ТАБЕ СКАЗАЛА.
ПАЙШЛІ, ХЛОПЧЫКІ, Я ЎСЯ **ВАША**.


РАССЫПЦЕСЯ ВЕЕРАМ І ПАШУМІЦЕ.
БРАТКА ТРУС, ВЯДЗЕШ ГЭТУ ГРУПУ Ў **ГЭТЫМ** КІРАВАННІ, БРАТКА МЯДЗВЕДЗЬ, АБЫХОДЗІШ КОЛАМ СА СВАЁЙ КАМАНДАЙ З ІНШАГА БОКУ. У НАС ПАВІННА АТРЫМАЦЦА ЗАХАПІЦЬ ЯГО Ў **АБЦУГІ.**
БАЗАВАЯ ТАКТЫКА.
ПАСПРАБУЙЦЕ ВЫМАНІЦЬ ЯГО СЮДЫ, НА АДКРЫТУЮ ПРАСТОРУ, ДЗЕ МЫ ЗМОЖАМ АКУРАТНА ЯГО ПРЫСТРЭЛІЦЬ.
ДАНУ ГЭТА **НЕ ПАДАБАЕЦЦА,** ЗЛАЦІ.
КАЛІ Б ТЫ НЕ **НАСТАЯЛА** ВЫСТАВІЦЬ ЯГО ГАЛАВУ НА АГЛЯД...
ШТО ЗРОБЛЕНА, ТОЕ **ЗРОБЛЕНА,** ПОЎЗІ. ТЫ НЯ МОЖАШ ЗАПХНУЦЬ ЛАЙНО НАЗАД У ГУСАКА.
ТЫ І ДАН АДКАЗВАЕЦЕ ЗА ПАЛІТЫКУ, І ГЭТА ДОБРА.
АЛЕ ПАКУЛЬ МАМКУ І ПАПКУ МЯДЗВЕДЗЯЎ СЛУХАЮЦЬ НАЙБОЛЬШ **ДРАПЕЖНІЦКІЯ** ЭЛЕМЕНТЫ З КАЗАЧНЫХ, А Я ЦЯГНУ ЗА НІТАЧКІ МЯДЗВЕДЗЯЎ, Я ГАЛОЎНАЯ **МОЦ** РЭВАЛЮЦЫІ.


ЦЯПЕР ПРАГРАМА ДЗЕЯННЯЎ У **МАІХ** РУКАХ.
АЛЕ МЫ НЕ **ГАТОВЫ**! МЫ ТОЛЬКІ ПАЧАЛІ ПЕРАРОБКУ ЗБРОІ, А ЎВАРВАННЕ НЯ МОЖА ПАЧАЦЦА, ПАКУЛЬ ГЭТА НЯ ЗРОБЛЕНА!
**ДА ЧОРТА** ПРАКЛЯТАЕ ЎВАРВАННЕ. Я НІКОЛІ НІ **ТРОШАЧКІ** НЕ ЦІКАВІЛАСЯ ВЯРТАННЕМ РОДНЫХ ЗЯМЕЛЬ.
ТАДЫ НАВОШТА ГЭТА ЎСЁ? ЧАМУ ТЫ ЎВОГУЛЕ З НАМІ, КАЛІ ТЫ НЕ ПАДТРЫМЛІВАЕШ..?
ТАМУ ШТО, КАЛІ ВЫ ЎСЕ **ПОЙДЗЕЦЕ** З ГЭТАГА СВЕТУ Ў СВОЙ ДОНКІНХОЦКІ ПАХОД, **КАМУСЬЦІ** ТРЭБА БУДЗЕ ЗАСТАЦЦА КІРАВАЦЬ ФЭЙБЛТАЎНАМ... АБЕДЗВЮМА СУПОЛКАМІ, ТУТ І Ў ГОРАДЗЕ.
І ТЫ ЗБІРАЕШСЯ СТАЦЬ ГЭТЫМ «КІМСЬЦІ»?
БАЧЫШ КАГО-НЕБУДЗЬ **БОЛЬШ** ГОДНАГА?
ВЫ ДВОЕ НЯ МОЖАЦЕ ЗАНЯЦЦА ЧЫМСЬЦІ **КАРЫСНЫМ**? ГЭТА РАЗМОВЫ ДАРОСЛЫХ. ІДЗІЦЕ САЧЫЦЕ ЗА МЯЖОЙ ЛЕСУ.
ЗЛАЦІ **ДУМАЕ**, ШТО ЯНА ЎСЁ ВЕДАЕ... КАЛІ СКАРЫСТАЦЬ ЛЕЙКУ І АДЗІН З АПТЭКАРСКІХ ТАЎКАЧЫКАЎ, КАБ ЗАПХАЦЬ ЯГО Ў...
БЕЗУМОЎНА, АЛЕ СПАЧАТКУ ТРЭБА **ЎСЫПІЦЬ** ГУСАКА.


Я БАЧЫЎ ЯГО ДЗЕСЬЦІ ТУТ, Я **ЎПЭЎНЕНЫ**!
А **Я** ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ТАБЕ ТРЭБА ЗВЯРНУЦЦА ДА АФТАЛЬМОЛАГА.
КАА, **ТЫ** ЯГО БАЧЫЎ?
ПАКУЛЬ НЕ, СТАРЫ КАРОЛЬ, АЛЕ Я ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО РАНА ЦІ ПОЗНА ЁН ТРАПІЦЬ У МАЕ КОЛЬЦЫ.
Я ПАСЛАЎ ЦЭЛУЮ КУЧУ БАНДЭРЛОГАЎ ПРАЧЭСВАЦЬ ЛЕС. КАЛІ ТЫ ВЫЛІЧВАЕШ ЗЛАВІЦЬ ЯГО ПЕРШЫМ, ТАДЫ ТАБЕ ЛЕПШ РУХАЦЦА ХУТЧЭЙ.



НЮХ
НЮХ
ШАРХАН.
БАГІРА.
ПАШАНЦАВАЛА?
ЁН ПОБАЧ. Я ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ЎЛАВІЎ ЯГО ПАХ УСЯГО ТОЛЬКІ ХВІЛІНУ НАЗАД.
ЖАДАЕШ, Я ДАПАМАГУ ТАБЕ ПАШУКАЦЬ ТУТ?
ХІБА ЗАПРАШАЕ МАГУТНЫ СУЛТАН **СЕЛЯНІНА**, КАБ ТОЙ ПАДЗЯЛІЎ З ІМ ТРАПЕЗУ? БЯГІ СВАЁЙ ДАРОГАЙ, МАЛЕНЬКАЯ ПАНТЭРА.


ГАЎ-
ГАВУШКІ!
ДУМАЕШ, Я НЕ ЗАЎВАЖЫЛА
ЦЯБЕ ТАМ, РЭЙНАРД?
МАТУЛЬКІ!
Я ПАКАЖУ ГЭТАМУ АРЫСТА-
КРАТЫЧНАМУ АЗАДКУ ХАНУ,
ДЗЕ РАКІ ЗІМУЮЦЬ.
А НУ
ВЯРНІСЯ!


РАССТУПІСЯ.
НЕ ЗВЯРТАЙЦЕ НА **МЯНЕ** ЎВАГУ.
PPPP!
ЯК ТЫ СМЕЕШ?
БАМ!
ГЭТА БЫЛО АМАЛЬ **ВЕЛЬМІ** ПРОСТА.


ЗБІРАЙЦЕСЯ, ДЗЕТКІ.
НАРЭШЦЕ НАДЫШОЎ СЛАВУТЫ ДЗЕНЬ. ПРЫЙШОЎ ЗАКЛІК.
УЗБРОЙВАЙЦЕСЯ!
ЧАРАВІК ЛЮБЫ ЧАРАВІК
ВЫДАТНА!
КЛАС!
ДАЎНО ПАРА!
ЧАС АДПАЛЬВАЦЬ, МАЛЫШКА!
ПАШМАЛЯЦЬ ПА ГЭТЫМ ПРЫГНЯТАЛЬНІЦКІМ ДУПАМ!
АКЕЙ, А НУ ПРЫЗНАВАЙЦЕСЯ. ХТО СПЁР МАЕ ПАТРОНЫ «МАГНУМ» З ТЭФЛОНАВЫМ ПАКРЫЦЦЁМ?
ТЫ ШТО, ЗАБЫЛАСЯ? ЯНЫ Ў ЗАПЛЕЧНІКУ ДЛЯ ВАСКРЭСНАЙ ШКОЛЫ.


ШТО ЗА ЧАРТАЎНЯ ТУТ ЧЫНІЦЦА?
УСЕ ПАВОДЗЯЦЬ СЯБЕ ЯК **ВАР'ЯТЫ. БЯССЭНСІЦА** НЕЙКАЯ.
ТАР ТАР ТАР ТАР
А?
БЕЛА, УПУСЦІ МЯНЕ! **ХУТЧЭЙ!**
РЭЙНАРД? ЧАМУ ТЫ КРАДЗЕШСЯ ПАД МАІМ АКНОМ?
ХУТЧЭЙ, ПАКУЛЬ МЯНЕ ХТО-НЕБУДЗЬ НЕ **ЗАЎВАЖЫЎ**.
ТАБЕ ТРЭБА АБІРАЦЦА АДСЮЛЬ, ДЗЯЎЧЫНКА. ТАБЕ ТУТ БОЛЬШ НЕ БЯСПЕЧНА.
**РУЖА** ПЛЯЛА ТАКУЮ Ж ТАЯМНІЧУЮ ЛУХТУ. ШТО АДБЫВАЕЦЦА?
НЯМА ЧАСУ. ТРЭБА **РУХАЦЦА**, ЦІ **ПРАЙГРАЕМ**, МАЛЫШКА. НЕКАТОРЫЯ З НАС **УСЁ ЯШЧЭ** АДДАНЫЯ ТАБЕ, І МНЕ ТРЭБА ДАСТАВІЦЬ ЦЯБЕ ДА **ІХ**, ПЕРШ ЧЫМ ДРЭННЫЯ ХЛОПЦЫ КІНУЦЬ ПАЛЯВАЦЬ НА **МЯНЕ** І ЎСПОМНЯЦЬ, ШТО ІМ ЯШЧЭ ТРЭБА ЗАНЯЦЦА **ТАБОЙ**.
НЕ БЯРЫ З САБОЙ НІЧОГА. ХАЙ ГЭТА ВЫГЛЯДАЕ ТАК, БЫЦЦАМ ТЫ **ЗБІРАЕШСЯ** ВЯРНУЦЦА НАЗАД.
ДАЛЕЙ:
ПІРАТЫ ЗАГАРАДНАГА НЬЮ-ЁРКА